


# Навіны Беларускага Народнага Фронту «АДРАДЖЭНЬНЕ»

3'1991

Выдаецца са сьнежня 1988 г. Кошт 60 кап.





с.3 За ўдзел у антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада арыштаваны Валеры СЯДОЎ



с.2 Уладзімір ЗАБЛОЦКІ: БНФ прыступіў да фармаваньня ценявога габінэту міністраў



с.4 Польскі шлях беларускага рабочага руху

с.6 Сярэдні беларус жыве на 4 $ у месяц



Малюнак Мікалая Чаркасава

# ЗЯМЛЯ й ВОЛЯ

Ірына ЛАЗОЎСКАЯ

***Навязаны нашаму народу саюз сярпа й молата паўстаў у сваёй завершанасьці, адметнасьць якой — дэградацыя вёскі й люмпэнізацыя гарадзкога насельніцтва. Сусьветна вядомая орвэлаўская антыўтопія «1984» не ідзе ні ў якае параўнаньне са штодзённымі малюнкамі савецкага побыту, які дасягнуў найвышэйшае ступені абсурднасьці менавіта на вёсцы.***

Пахіленыя загарадкі й перакошаныя дамы «слаўных будаўнікоў камунізму», а побач і яны самі ў зашмальцаваных ватоўках і гумовых ботах, п'яныя й бяззубыя, тут-жа апранутыя не па ўзросьце іхнія дзеці. Такая вёска задавальняе камуністычных кіраўнікоў, якія без праблемаў маніпулююць даведзеным да стану быдла народам. Менавіта гэткая вёска — іхні сапраўдны ідэал, бо гарантуе існаваньне сістэмы: галечу, пэрманэнтнае недаяданьне, падпарадкаванае пагоні за кавалкам хлеба жыцьцё.

Селянін і жаўнер, прыгонны й рэкрут (нічога не зьмянілася з часоў, калі узьняў сваё войска Кастусь Каліноўскі) — самыя бяспраўныя ў СССР. На вёску й на армію законы амаль не распаўсюджваюцца, тут пануе выключна воля старшыні ці старшыны, якая забясьпечвае зялёнае сьвятло на выбарах самым рэакцыйным кандыдатам кампартыі. Жаўнер і селянін усё сьцерпяць.

(Працяг на стар. 8)

ВЁСКА





# АРЫШТ

***7 траўня за ўдзел у лістападаўскім антыкамуністычным мітынгу БНФ быў арыштаваны выпускаючы «Навінаў БНФ» Валеры СЯДОЎ***

***Цяпер ён знаходзіцца ў сьледчым ізалятары. Улады інкрымінуюць яму актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія прывялі да парушэньня грамадзкага парадку, і злоснае хуліганства.***

РЭПРЭСІІ

Фота Уладзіміра Сапагова.

Паводле пастановы Пракуратуры БССР «пад час знаходжаньня ў складзе мітынгуючых і сумесна зь імі Сядоў В.В., які актыўна ўдзельнічаў у групавых дзеяньнях, груба парушаўшых грамадзкі парадак, зьвязаных зь яўным непадпарадкаваньнем законным патрабаваньням прадстаўнікоў улады й выклікаўшых спыненьне работы транспарту, здолеў прарвацца да помніка У.І.Леніну, чым зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 186 КК БССР.

Адначасна з гэтымі дзеяньнямі, нягледзячы на патрабаваньні работнікаў міліцыі спыніць бясчынствы й адыйсьці на плошчу, Сядоў В.В. падняўся на трыбуну помніка й, груба парушыўшы грамадзкі парадак, публічна выразіўшы яўную непавагу да грамадзтва й агульнапрызнаных нормаў маралі, праявіўшы пры гэтым надзвычайны цынізм і асаблівую дзёрзкасьць, прымацаваў да помніка У.І.Леніну пудзіла ў выглядзе адзетай на драўляны крыж ватоўкі.

Гэтымі дзеяньнямі, якія апаганьваюць памяць заснавальніка савецкае дзяржавы, Сядоў В.В. зьняважыў гістарычны помнік манумэнтальнага мастацтва, прысьвечаны падзеям Кастрычніцкае рэвалюцыі, абразіў грамадзкую маральнасьць, выявіў яўнае грэблівае стаўленьне да народных традыцыяў і гісторыі Айчыны, чым зьдзейсьніў злоснае хуліганства, г.зн. злачынства, прадугледжанае арт. 201 ч.2 КК БССР».

Адсунуўшы ў бок юрыдычную казуістыку, падкрэсьлім, што Валерыя Сядова абвінавачваюць у тым, што ён усклаў да помніка Леніну «пудзіла–сымбаль», дарэчы, таго самага жыцьця, на якое абверг мільёны жыхароў 6 часткі сьвету менавіта «заснавальнік савецкае дзяржавы», які сам у свой час меў куды больш сур'ёзныя непаразуменьні з уладамі й неаднаразова прыцягваўся да крымінальнае адказнасьці. Становішча В.Сядова ўскладняецца тым, што на 2-м зьезьдзе БНФ ён адкрыта заявіў аб стварэньні «Антыбальшавіцкае лігі», што, відаць, і зьявілася сапраўднай прычынаю арышту.

Справу В.Сядова вядзе адвакат Н.Дударава, якая ня бачыць складу злачынства ў ягоных дзеяньнях. Але, нягледзячы на шытае белымі ніткамі абвінавачваньне, нашаму супрацоўніку пагражае турэмнае зьняволеньне тэрмінам да 5 год.

У антытэзе «чалавек – атрыбутыка савецкае імпэрыі» верныя сумнавядомым традыцыям 37-га служкі сацыялістычнае Фэміды ізноў у каторы ўжо раз сталі на абарону сістэмы.

Асабліва тэндэнцыйным выглядае абраная Пракуратурай БССР мера засьцярогі – В.Сядоў зьмешчаны ў камэру папярэдняга зьняволеньня. З аднаго боку гэта можна патлумачыць як спробу застрашыць актывістаў БНФ і рабочага руху, з другога – тым, што старшы саветнік юстыцыі В.Собалеў няўпэўнены, што суд падтрымае абвінаваўчае заключэньне Пракуратуры.

З гэтага вынікае, што суд найхутчэй будзе адкладзены на максімальна дапушчальны законам тэрмін, такім чынам нават у выпадку апраўдальнага прыгавору непакорны Сядоў усё роўна будзе пакараны. Зразумела, што ніхто не кампэнсуе Валерыю Сядову маральныя й фізічныя страты, якія ён перажыве за кратамі.

Інкрымінаванае Валерыю Сядову абвінавачваньне ў «надзвычайным цынізме» найперш датычыцца Пракуратуры БССР й асабіста старшага саветніка юстыцыі В.Собалева, які, абраўшы скрайнюю меру засьцярогі, практычна пазбавіў ягоную сям'ю сродкаў да існаваньня. Жонка Валерыя цяпер знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку па догляду за дзіцём. Мяркуем, ня трэба тлумачыць, што на 110 рублёў дапамогі пры цяперашніх цэнах 2 чалавекам пражыць проста нельга. Але гэта не аргумэнт для ўладаў.

Жорсткае стаўленьне Пракуратуры да В.Сядова зьвязанае яшчэ й з той акалічнасьцю, што ўсе папярэднія спробы ўладаў прыцягнуць да судовае адказнасьці лідэраў БНФ праваліліся. Яны зразумелі, што такія асобы, як Зянон Пазьняк і Юры Хадыка моцна абароненыя грамадзкай думкаю, і таму ўзяліся за шараговых сяброў Фронту, спадзеючыся такім чынам унесьці раскол у рух.

Улічыўшы акалічнасьці справы, адсутнасьць складу злачынства й цяжкое матар'яльнае становішча сям'і В.Сядова, рэдакцыя газэты зрабіла захады дзеля ягонага вызваленьня са сьледчага ізалятару да суда пад падпіску пра нявыезд.

Супрацоўнікі рэдакцыі лічаць, што цяпер, калі адбылася рэзкая палярызацыя грамадзтва, недапушчальныя аніякія правакацыі як з боку ўладаў, так і з боку альтэрнатыўных сілаў. Віну В.Сядова вызначыць суд, і Пракуратуры ня варта падмяняць яго.

11 чэрвеня ў рэдакцыю «Навінаў» патэлефанавала жонка В.Сядова Ірына. Яна паведаміла, што была на прыёме ў старшага саветніка юстыцыі В.Собалева, які ў абразьлівай для жанчыны форме заявіў, што ніякія паручальніцтвы не прымусяць яго выпусьціць В.Сядова з турмы да суда.

Рэдакцыя газэты дагэтуль не атрымала афіцыйнага адказу на свае захады ў абарону В.Сядова.

В.Сядоў не адзіны аб'ект перасьледу за ўдзел у антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада мінулага году. Некалькі тыдняў таму Пракуратураю БССР была ўзятая падпіска пра нявыезд у прыбіральшчыцы, адзінокай маці Лідзіі Цынгалёвай і 18-гадовага вартаўніка Аляксея Шастакова.

Пракуратура Рэспублікі перасьледуе жыхара Вільні Валерыя Савянкова, які, як і тысячы менчукоў, узяў удзел у мітынгу. В.Савянкоў паведаміў па тэлефоне, што супрацоўнікі Пракуратуры настолькі зацікаўленыя ягонай асобаю, што нават выязджалі ў камандзіроўку ў суседнюю рэспубліку.

**Каміла Малевіч**



...авіцкія страйкі ўскалыхнулі ўсю ...гія спадзяваліся, што 21 траўня, ...ачатку чарговае сэсіі Вярхоўнага ...ту Рэспублікі, будзе адзначаны ... яшчэ аднае Бэрлінскае сьцяны. ...е гэтым спадзяваньням не было наканавана спраўдзіцца.

# ...M DAS SEINE

## кожнаму сваё

Фота Уладзіміра Сапагова.

Уявіце сабе людзей, на чыіх плячох трымаецца энэргетыка краіны, якія цяжка працуюць пад зямлёю, і зь якімі нават не жадаюць размаўляць. Гэта асабістая абраза для кожнага шахцёра.

Скептычна гляджу на ідэю «круглага стала» хацяб таму, што ў Літвы ёсьць свой досьвед пагадненьняў з намэнклятурай. Яскравы прыклад такога няўдалага кампрамісу – леташні маратор на незалежніцкую заканатворчасьць.

Пасьля расчараваньня ў мараторыі нам спатрэбілася прыкладна паўгода, каб прайшла апатыя, якую разьвеялі толькі першыя ўрадавыя скандалы й танкі.

Але ўзгадаем і іншы прыклад. У Польшчы да «круглага стала» рыхтаваліся доўга й балюча, але-ж пасьля яго пачаўся новы гістарычны этап. Дай, Божа, каб так адбылося й у Расеі.

Рабочым пажадаў-бы не расслабляцца нават і ў выніку перамогі, захаваць структуры, быць падрыхтаванымі да новых палітычных страйкаў. Не прыкончым камуністычную гідру – нічога добрага ня будзе. Дарэчы, калі гэта адбудзецца, значна супакояцца й нашыя «ружовыя» (сацыяль-дэмакраты. – Рэд.).

**Кар.: Ці вырасьлі ў нашым рабочым руху выдатныя асобы?**

**К.У.:** Так. Калі пачнуцца новыя выбары, спадзяюся, што ў літоўскім Сойме будуць ужо не 4, як цяпер, а мо' 10 прадстаўнікоў Рабочага саюзу.

Рабочы саюз Літвы арганізуе зараз акцыю дапамогі. Гэтым летам мы хацелі-б прыняць некалькі сотняў (а мо' й тысячаў) дзяцей з Кузбасу, Данбасу, Варкуты.

**Кар.: Давайце яшчэ вернемся на Беларусь.**

**К.У.:** Сітуацыя на Беларусі асабліва цікавая. Рабочы саюз там дзейнічае з 1988 году, і, калі насьпелі ўмовы, ён апынуўся падрыхтаваным да разьвіцьця падзеяў. Зараз суадносіны палітычных сілаў у Рэспубліцы зьмяняюцца на карысьць дэмакратаў. Гэта дае магчымасьць зьвярнуцца да нашых сяброў, каб яны дапамаглі ўнармаваць узаемадачыненьні абедзьвюх краінаў, чаго цяперашнія афіцыйныя ўлады на Беларусі па сёньняшні дзень рабіць не жадаюць.

На Беларусі адбываюцца й іншыя працэсы. Нядаўна група высокапастаўленых афіцэраў міліцыі адмовілася выконваць дырэктывы КПСС. Дзе-нідзе з заводаў выганяюцца парткамы. Так ужо адбылося на гарадзенскім аб'яднаньні «Азот», якое вельмі забруджвае Нёман. Так што можа й нашая рака зробіцца чысьцейшая?

Наогул, я ня бачу сфэры, дзе-б інтарэсы рабочых не супадалі з нацыянальнымі інтарэсамі любой з рэспублікаў.

Пераклаў Ёнас Лаўрынавічус.

## УЛАДА

У справе абяззбройваньня беларускага рабочага руху Станіслаў Шушкевіч адыграў у пэўным сэнсе злавесную ролю. Ніхто: ні Мікалай Дземняцей ні Анатоль Малафееў ні Аляксей Камай ня здолелі-б зрабіць гэтага. Зь імі проста ня сталі-б гаварыць. Узяўшы на сябе адказнасьць за далейшае разьвіцьцё падзеяў, С.Шушкевіч ад ранейшае арыентацыі на ўзаемаразуменьне з народам прыйшоў да адмаўленьня права рабочых на ўдзел у палітычным працэсе.

Гэты паварот шмат у чым зьвязаны з уплывовасьцю кансэрватыўнае большасьці ў ВС БССР і нерашучасьцю апазыцыйных партыяў і рухаў, якая была прадэманстраваная пад час страйкаў у адсутнасьць Зянона Пазьняка.



# ВЫБАР

**«Навіны»: Сп. Шушкевіч, на пачатку рабочых страйкаў Вы ўзялі ініцыятыву ў свае рукі й фактычна ўзначалілі перамовы з рабочымі. Яшчэ 11 красавіка здавалася, што Вы згодны на пошук кампраміснага рашэньня, але калі страйкі набылі выразны палітычны характар, Вы зьмянілі пазіцыю.**

**С.Шушкевіч:** Гэта Вашая трактоўка. Я пазіцыі так хутка не мяняю. Давайце пачнем з пачатку. Абгрунтаваны пратэст, які меў мейсца 3–10 красавіка, патрабаваў, каб неадкладна былі прынятыя меры эканамічнага характару. На Вашую-ж думку, рабочыя сасьпелі й самі сфармулявалі палітычныя патрабаваньні. Ну а я, прабачце, навуковец, і для мяне ёсьць больш важкі за Вашае меркаваньне аргумэнт – сацыялягічнае дасьледваньне, праведзенае па замове Вярхоўнага Савету, паводле якога большасьць забастоўшчыкаў, 82%, даведаліся аб палітычных патрабаваньнях праз тэлевізію, радыё й газэты. Такім чынам, палітычныя патрабаваньні – справа тых, хто ўзначаліў страйк, хто навязвае гэткую думку, выкарыстоўваючы страйкавы рух дзеля дасягненьня сваіх мэтаў. Сярод іх многія дэпутаты, якія вельмі актыўна паводзяць сябе падчас мітынгаў, але са значна меншым энтузіязмам працуюць у Вярхоўным Савеце.

**«Навіны»: А як-жа стасуецца з Вашай канцэпцыяй палітычны страйк на МАЗе, які працягваўся пасьля заклiку гарадзкога страйкаму спыніць акцыі пратэсту, пасьля таго, як рабочым МАЗу ўдвая падвысілі заробкі?**

**С.Ш.:** Я не абсалютызую. Ёсьць палітычныя патрабаваньні, якія неабходна вырашаць тэрмінова. Але й на МАЗе пытаньне аб дэпартызацыі прадпрыемства можна было-б вырашыць у рамках дзейнага заканадаўства праз скліканьне працоўнае заводзкае канфэрэнцыі.

Зразумела, што агульнае рашэньне больш важкае чым канкрэтнае, што пытаньне аб тым, каб усе грамадзкія й палітычныя арганізацыі Рэспублікі гуртаваліся толькі па тэрытарыяльным прынцыпе, сапраўды, можа вырашыць толькі Вярхоўны Савет БССР. Што да мяне, дык я прыхільнік такога падыходу.

**«Навіны»: Ацэньваючы стан беларускіх рабочых, Вы сказалі, што яны не сасьпелі яшчэ да палітычных патрабаваньняў, што палітычныя патрабаваньні былі прыўнесеныя лідэрамі рабочага руху й БНФ.**

**С.Ш.:** Не, гэта Вы так гаворыце. Сьвядомыя рабочыя даўно сасьпелі, і сярод іх нямала па-сапраўднаму адукаваных высокакультурных людзей. Але-ж ёсьць і іншыя – працуюць на прадпрыемстве бяз году тыдзень і ўжо лічаць сябе ня толькі правамоцнымі выступаць ад імя рабочае клясы, але й фармуляваць палітычныя патрабаваньні ад імя ўсіх рабочых.

**«Навіны»: Не заглыбляючыся ў зроблены Вамі падзел на пісьменных і непісьменных рабочых, агульную масу й страйкамы, усё-ж хачу даведацца, як Вы асабіста ставіцеся да тых палітычных патрабаваньняў, якія былі абвешчаныя рабочымі?**

**С.Ш.:** Што тычыцца патрабаваньня адносна ўраду народнага даверу – гэта ня самы блізкі этап. Цяпер гэта зрабіць немагчыма, бо перашкаджае закладзены ў Канстытуцыі мэханізм фармаваньня ўраду. Я асабіста ўспрымаю гэтую ідэю станоўча, але думаю, што цяперашні ўрад здолеў прадухіліць развал і стабілізаваць сітуацыю. Па выніках 1-га кварталу габінэт В.Кебіча забясьпечыў Беларусі лепшае ў параўнаньні з суседнімі рэспублікамі становішча. Але ўжо ў красавіку праз страйкі ўся гэтая работа была амаль змарнаваная. Цяпер урад вымушаны ўзмацніць пэўныя элемэнты каманднае сістэмы.

**«Навіны»: Вы ацанілі дзейнасьць беларускага ўраду, але лепшы ў параўнаньні зь іншымі рэспублікамі выгляд Беларусі па выніках 1-га кварталу абумоўлены ўмела прыхаванай «заначкаю», якая паводле канфэдэнцыйнае інфармацыі з Саўміну была роўная закладзенаму ў бюджэт 3-мільярднаму дэфіцыту.**

**С.Ш.:** Калі ўрад здолеў правесьці праз Вярхоўны Савет такі бюджэт, дык Вы пацьвярджаеце маю думку. Ну й зьмена цэнаў у значнай ступені павялічыла даходную частку бюджэту.

**«Навіны»: Як Вы ставіцеся да патрабаваньняў прыняць новы закон пра выбары на шматпартыйнай аснове?**

**С.Ш.:** Мне больш падабаецца прапанова да канца году прыняць новую Канстытуцыю, у якой будуць азначаныя новыя прынцыпы выбарчага права. Такім чынам, вырашылася-б пытаньне аб зьмене структуры ўлады. Цяпер абставіны падштурхоўваюць мяне ў стан прыхільнікаў прэзідэнцкае формы праўленьня, якая можа забясьпечыць эфэктыўнасьць выканаўчых структураў.

**«Навіны»: Выказаная Вамі думка аб увядзеньні прэзідэнцкага праўленьня на Беларусі зьвязаная з выкананьнем Дэкларацыі аб сувэрэнітэце Рэспублікі, як Вы ў сувязі з гэтым ставіцеся да Саюзу «9»?**

**С.Ш.:** БНФу-ж ніколі не падабалася, што я за справядлівы Саюз. Вы за тое, каб мы былі незалежныя. Я лічу гэта амаль што жартам. Я быў і застаюся прыхільнікам Саюзу, асабліва падкрэсьліваю, – справядлівага Саюзу. Заява «9+1» – крок да такога Саюзу.

**«Навіны»: А як жа стасуецца з тэзісам аб узмацненьні сувэрэнітэту дэклараваная заявай Гарбачова-Ельцына агульнасаюзная Канстытуцыя?**

**С.Ш.:** Усё залежыць ад таго, якой яна будзе. А цяпер мы дайшлі да таго, што трэба распачынаць барацьбу з саюзнымі законамі. Я прыхільнік прыняцьця закону аб прымаце рэспубліканскіх законаў над саюзнымі.

**«Навіны»: Аднак гэта ня што іншае, як гвалт саюзнае Канстытуцыі.**

**С.Ш.:** Паглядзіце, што зрабіла Расея... Згвалтаваньне ўжо адбылося.

**«Навіны»: Абраўшы пазіцыю жорсткае канфрантацыі з рабочымі, Вы нанесьлі шкоду сваёй папулярнасьці й, калі паўстане пытаньне пра новыя выбары, Вы апынецеся ў вельмі хісткай сітуацыі.**

**С.Ш.:** На жаль, я ня вельмі добра абазнаны ў мэмуарах палітычных дзеячоў, але адкажу словамі Чэрчыля, якія падчас знаходжаньня ў Японіі ўзгадаў Гарбачоў: «Дзяржаўны дзеяч думае пра будучыню, а палітык – пра будучыя выбары». Такім чынам, нават і Вы расцэньваеце мяне як дзяржаўнага дзеяча. Трэба рабіць захады на карысьць Беларусі, і калі я страчу нават усё ў папулісцкім пляне, дык, цытуючы зь вельмі паважанага мною твору Фідэля Кастра, «гісторыя мяне апраўдае».

**«Навіны»: Такім чынам, Вы катэгарычна супраць страйкаў?**

**С.Ш.:** Я катэгарычна супраць таго, каб на сьвядомым пратэсьце людзей ня лепшую гульню распачыналі палітычныя сілы, каб яны выкарыстоўвалі гэты пратэст з мэтаю ператварэньня яго ў палітычную сілу.

**«Навіны»: Ці маглі быць ужытыя войскі супраць рабочых Воршы?**

**С.Ш.:** Ні ў якім разе! Ніякіх захадаў па прыцягваньню войскаў у Воршу не было, урад такіх крокаў не рабіў. На ўсіх этапах страйку я быў перакананы, што няма ніякіх падставаў дзеля ўвядзеньня надзвычайнага становішча.

**«Навіны»: А як-жа заява міністра ўнутраных справаў БССР Ягорава аб тым, што ў сувязі з падзеямі на Беларусі ён запатрабаваў ад Барыса Пугі вярнуць беларускую дывізію з Нагорнага Карабаху?**

**С.Ш.:** Справа ў тым што значная частка супрацоўнікаў МУС Беларусі па дамоўленасьці зь міністэрствам была накіраваная туды для выкананьня работ, і тое, што міністар прагназаваў пэўнае разьвіцьцё падзеяў – гэта ягоная нармальная рэакцыя. Каб быў зварот да вайскоўцаў з суседніх рэспублікаў альбо да цэнтру альбо да вайсковых часьцей нават з боку няўрадавых інстанцыяў, дык можна было-б гаварыць пра наяўнасьць нейкага камітэту нацыянальнага выратаваньня. Такі падыход, як Вы ведаеце, асуджаны нашым Вярхоўным Саветам з нагоды падзеяў у Літве.

**«Навіны»: 25 красавіка Вы заявілі Сяргею Антончыку, які гаварыў пра дэклараваныя Вамі-ж хвіліны эфіру на тэлевізіі, што Вярхоўны Савет і ўрад маюць дастаткова сродкаў, каб разагнаць аршанскіх забастоўшчыкаў, якія перакрылі чыгунку, і ніякае страйкамаўскае пасярэдніцтва уладам непатрэбнае.**

**С.Ш.** Я ня буду гаварыць, што гэта чыстая хлусьня, але ў момант эмацыйнага напружаньня нешта незразумелае адбываецца з памяцьцю асобных дэпутатаў. Сп. Антончык сказаў, што «мы прекратим безобразия в Орше, если нам будет выделен эфир». Я яму адказаў, што «безобразия будут прекращены в соответствии с законом и законными методами, потому что наша власть ещё в состоянии обеспечить безопасность людей».

Запісала Іра Лазоўская.

# СТАТУТ
## Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»



***Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»— гэта шырокі грамадзка-палітычны рух за пераўтварэньне грамадзтва й адраджэньне беларускае нацыі на прынцыпах дэмакратыі й гуманізму, разьвіцьця культуры карэннае нацыянальнасьці ды ўсіх нацыянальных супольнасьцяў на Беларусі.***
***Галоўная мэта БНФ — усталяваньне дэмакратычнага грамадзтва, дасягненьне незалежнасьці Беларусі. БНФ дзейнічае ў межах Канстытуцыі й Законаў БССР, у адпаведнасьці з палажэньнямі Праграмнае заявы й Статутам.***

**ДАКУМЭНТЫ**

### ДЗЕЙНАСЬЦЬ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

БНФ «Адраджэньне» вывучае й аналізуе становішча ва ўсіх сфэрах эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага, культурнага жыцьця Беларусі, высьвятляе шляхі й магчымасьці вырашэньня праблемаў, распрацоўвае й ажыцьцяўляе свае гаспадарчыя, культурныя, палітычныя мерапрыемствы ды ініцыятывы, падтрымлівае грамадзкія й дзяржаўныя пачынаньні, пляны ды праграмы, скіраваныя на дасягненьне Беларусьсю дзяржаўнае незалежнасьці й пабудову дэмакратычнага ладу, заснаванага на Ўсеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека, прыватнай ды іншых формах уласнасьці й рынкавых дачыненьнях.

БНФ праводзіць сацыялягічныя дасьледаваньні, наладжвае народныя абмеркаваньні вострых праблемаў грамадзкага жыцьця, ажыцьцяўляе ў розных формах шырокую асьветніцкую працу.

БНФ супрацоўнічае з грамадзкімі арганізацыямі й дзяржаўнымі ўстановамі ў ажыцьцяўленьні плянаў і праграмаў, адпаведных мэтам і задачам БНФ.

БНФ арганізуе талокі для догляду помнікаў гісторыі й культуры, захаваньня прыроды, займаецца неабходнай гаспадарчай дзейнасьцю.

БНФ бярэ ўдзел у выбарчых кампаніях: вылучае сваіх кандыдатаў у дэпутаты й падтрымлівае іншых кандыдатаў, якія стаяць на дэмакратычнай плятформе, выпрацоўвае наказы дэпутатам, дапамагае ім у дзейнасьці, ставіць пытаньні аб адкліканьні дэпутатаў, што не апраўдалі даверу выбаршчыкаў, бярэ ўдзел у грамадзкім кантролі за ходам выбарчых кампаніяў.

БНФ дамагаецца выкананьня на Беларусі міжнародных пагадненьняў і пактаў па абароне грамадзянскіх, палітычных, сацыяльных правоў і вольнасьцяў чалавека. БНФ выдае свае газэты, бюлетэні, інфармацыйныя матар'ялы й г.д.

БНФ выступае супраць насільля й не адказвае насільлем на яго ўжываньне ўладамі.

### УДЗЕЛ У БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

БНФ «Адраджэньне» — гэта шырокі грамадзка-палітычны рух, у якім аб'ядноўваюцца грамадзяне, грамадзкія суполкі, аб'яднаньні, партыі, што падтрымліваюць палажэньні Праграмнае заявы БНФ і прызнаюць яго Статут.

Прыхільнікі «Адраджэньня» садзейнічаюць у свабодна абраных формах ажыцьцяўленьню палажэньняў Праграмнае заявы БНФ.

Прыхільнікі БНФ робяцца яго сябрамі, калі яны ўваходзяць у склад аднае з суполак БНФ.

Сябрамі БНФ могуць быць грамадзяне, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, падзяляюць яго Статут, падтрымліваюць палажэньні Праграмнае заявы БНФ, незалежна ад нацыянальнасьці, партыйнасьці, веравызнаньня й сацыяльнага становішча.

Сябры БНФ карыстаюцца правамі:

—свабодна ўдзельнічаць у мерапрыемствах Фронту;

—арганізоўваць мерапрыемствы БНФ у адпаведнасьці зь яго Статутам і палажэньнямі Праграмнае заявы;

—абмяркоўваць усе пытаньні дзейнасьці БНФ, уносіць прапановы;

—выбіраць і быць абранымі ў кіраўнічыя органы БНФ;

—вольна выходзіць з БНФ.

Сябра БНФ атрымоўвае юрыдычную, маральную ды інш. падтрымку з боку БНФ.

Сябры БНФ нясуць абавязкі:

—рэгулярна выплочваць грашовыя складкі ў памерах, якія вызначаюць суполкі;

—распаўсюджваць і спрыяць распаўсюджваньню друкаваных выданьняў БНФ;

—удзельнічаць у іншых формах працы суполкі.

Аснову БНФ складаюць суполкі ( ня менш за 3 чал.), якія ствараюцца па мейсцы працы, вучобы, службы ці жыхарства людзьмі, зьяднанымі грамадзянскай сьвядомасьцю ды абавязкам, агульнасьцю маральна-этычных паставаў.

Суполкі могуць мець правы юрыдычнае асобы, могуць мець свае Статуты, пляны дзейнасьці, якія павінны адпавядаць асноўным ідэям і прынцыпам палажэньняў Праграмнае заявы й Статуту БНФ.

У суполцы складаецца сьпіс яе сяброў, афармляюцца ўліковыя карткі. Сябрам суполкі выдаюцца- асабістыя пасьведчаньні.

Новыя сябры прымаюцца ў склад суполкі па пісьмовай заяве на агульным сходзе суполкі простай большасьцю галасоў. Сябра БНФ можа быць выключаны з БНФ па рашэньні суполкі, калі ён груба парушае Статут суполкі ці ганьбіць годнасьць сябра БНФ. Гэтае рашэньне можа быць абскарджанае ў вышэйшым выбарным органе БНФ.

Суполка ў поўным складзе па тых-жа прычынах можа быць адлучаная ад БНФ рашэньнем Сойму БНФ у 2/3 галасоў.

Раённыя, гарадзкія, рэгіянальныя Рады БНФ рэгіструюцца ва Ўправе БНФ.

Суполка рэгіструецца ў раённай, гарадзкой, рэгіянальнай Радзе БНФ на падставе заявы й пратаколу яе арганізацыйнага сходу. Калі ў раёне, горадзе, рэгіёне няма Рады БНФ, яна рэгіструецца непасрэдна Управаю БНФ «Адраджэньне».

Суполка праводзіць у жыцьцё палажэньні Праграмнае заявы БНФ, бярэ ўдзел у агульных мерапрыемствах і акцыях, разьвівае ўласную ініцыятыву. У выпадку няўдзелу ў асобных агульных мерапрыемствах — не процідзейнічае працы іншых фармаваньняў БНФ. Суполкі трымаюць сталую сувязь з Управаю, рэгулярна праводзяць паседжаньні, абмяркоўваюць дакумэнты Фронту.

Суполка БНФ абірае скарбніка, можа стварыць рэвізійную камісію й г.д. Суполка БНФ пералічвае ў распараджэньне Управы БНФ ня менш за 10 % ад сумы асабістых складак сяброў суполкі ды збораў з падпісных лістоў.

Суполка вылучае прадстаўнікоў у кіраўнічыя ды каардынацыйныя органы БНФ і можа іх адклікаць.

У межах пэўнае мяйсцовасьці суполкі могуць утварыць тэрытарыяльную (раённую, гарадзкую, рэгіянальную) Раду (Аддзел, Арганізацыю) БНФ, вылучыўшы туды ўпаўнаважаных, выбраць кіраўніка Рады, скарбніка й Рэвізійную камісію.

Вылучэньне альбо пацьвярджэньне паўнамоцтваў Упаўнаважаных, дэлегаваных суполкамі ў тэрытарыяльныя Рады БНФ, адбываецца па рашэньнях Радаў, але не радзей, чым адзін раз на год.

Акрамя суполак БНФ у тэрытарыяльныя Рады БНФ на аднолькавых з суполкамі правох могуць уваходзіць іншыя і ( прафэсійныя, экалягічныя, асьветныя, палітычныя й г.д. арганізацыі ды партыі (ці іх мяйсцовыя аддзелы), якія ўваходзяць у БНФ, і калі іхнія Статуты й Праграмы не супярэчаць Статуту Рады БНФ і асноўным палажэньням Праграмнае заявы БНФ.

Тэрытарыяльныя Рады БНФ могуць мець правы юрыдычнай асобы, могуць мець свае Статуты, пляны дзеяньняў, права на гаспадарчую й выдавецкую дзейнасьць.

У структуру БНФ рашэньнем Сойму або зьезду могуць уключацца на правох калектыўных сяброў іншыя агульнарэспубліканскія грамадзкія арганізацыі й партыі, калі іхнія мэты й дзейнасьць не пярэчаць праграмным палажэньням БНФ. Партыі ды грамадзкія арганізацыі, што ўваходзяць у Народны Фронт, дзейнічаюць адпаведна сваім Статутам, незалежныя й вольныя ў дзеяньнях. Яны каардынуюць сваю працу ў агульнай справе й агульных акцыях БНФ. Партыі й арганізацыі пералічваюць у распараджэньне Ўправы БНФ ня менш за 10 % ад сумы асабістых складак сваіх сяброў.

### КІРАЎНІЧЫЯ ОРГАНЫ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Усе кіраўнічыя органы БНФ зьяўляюцца выбарнымі, дзейнічаюць на прынцыпах поўнай публічнасьці й калегіяльнасьці. Кіраўнічымі органамі БНФ ёсьць Сойм і Зьезд. Выканаўчым органам БНФ ёсьць Управа БНФ.

Галоўны кіраўнічы орган БНФ «Адраджэньне» — Зьезд, які зьбіраецца не радзей аднаго разу на два гады. Пра скліканьне чарговага Зьезду паведамляецца не пазьней чым за тры месяцы да яго адкрыцьця. Дэлегаты Зьезду абіраюцца з прадстаўнікоў суполак, тэрытарыяльных радаў і інш. грамадзкіх арганізацыяў, што зьяўляюцца калектыўнымі сябрамі БНФ. У працы Зьезду могуць браць удзел прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў і рухаў, якія падтрымліваюць БНФ. Пры неабходнасьці можа быць скліканы нечарговы Зьезд па патрабаваньні Сойму ці адной трэйцяй усіх Радаў.

Зьезд БНФ:

—прымае рашэньне пра стварэньне БНФ і яго ліквідацыю;

—прымае Статут і Праграму БНФ, робіць у іх дапаўненьні ды зьмены;

—абмяркоўвае ды прымае рашэньні па прынцыповых пытаньнях дзейнасьці БНФ, зацьвярджае асноўныя кірункі яго дзейнасьці;

—прымае рашэньні аб зваротах у Вярхоўны Савет і інш. дзяржаўныя органы Рэспублікі, робіць заявы па найважнейшых пытаньнях грамадзкага жыцьця;

—выбірае на два гады Сойм, старшыню Фронту ды яго намесьнікаў, Рэвізійную камісію, заслухоўвае іх справаздачы, прымае рашэньні пра сымболіку й інш.;

—зацьвярджае рэдактараў друкаваных органаў БНФ.

Рашэньні Зьезду прымаюцца адкрытым галасаваньнем большасьцю галасоў пры наяўнасьці ня менш, чым 2/3 дэлегатаў. Выбары кіраўніцтва БНФ і галасаваньне па пэрсанальных пытаньнях праводзіцца таемна.

Сойм БНФ працуе ў прамежках паміж Зьездамі, фармуе склад Управы. Сойм склікаецца не радзей як штомесяц.

Сойм БНФ фармуецца Зьездам на 50% з прадстаўнікоў тэрытарыяльных Радаў БНФ, рэспубліканскіх арганізацыяў і партыяў, што ўвайшлі ў склад БНФ, і на 50 % з дэлегатаў зьезду.

Прадстаўнікі Фронту ў Сойм выбіраюцца Зьездам.

Прадстаўнікі партыяў і тэрытарыяльных Радаў дэлегуюцца па квоце партыямі, грамадзкімі арганізацыямі й тэрытарыяльнымі Радамі.

Усе сябры Сойму БНФ роўныя ў правох, падпарадкоўваюцца Статуту й аднолькава адказныя перад Зьездам і дэмакратычным рухам БНФ. Партыі колькасьцю ад 100 да 300 сяброў дэлегуюць 1 чалавека, ад 300 да 1000 — 2 чалавекі, ад 1000 да 3000 — 4 чалавекі, ад 3000 да 10000 — 8 чалавек.

Ад кожнае грамадзкае арганізацыі дэлегуецца 1 чалавек. Ад тэрыторыяў (вобласьцяў і горада Менска) па 2 чалавекі.

Квота ад партыяў, грамадзкіх арганізацыяў і тэрыторыяў застаецца адкрытай да таго часу, пакуль колькасьць выбраных прадстаўнікоў у абедзьвюх частках Сойму не ўраўнаважыцца.

Кожная новая партыя, арганізыцыя ці тэрыторыя ў межах Беларусі й іншых рэспублік, дзе ўтворыцца Рух і структура БНФ, могуць мець сваіх прадстаўнікоў у Сойме. Рашэньне пра дэлегаваньне прымае Сойм паводле заяваў партыяў, арганізацыяў і тэрытарыяльных структураў.

Сойм зьяўляецца паўнамоцным, калі ў яго паседжаньнях удзельнічае больш чым палова яго сяброў, а рашэньні правамоцныя, калі за іх пададзена больш чым палова галасоў прысутных.

Сойм БНФ:

—пры неабходнасьці склікае паміж Зьездамі канфэрэнцыі БНФ;

—прадстаўляе БНФ як грамадзка-палітычны рух у дачыненьнях зь іншымі палітычнымі арганізацыямі ды грамадзкімі ўстановамі, адстойвае ідэі ды зьмест БНФ;

—разглядае й вырашае прынцыповыя пытаньні Руху, прымае рашэньні пра буйныя ўсеагульныя акцыі ды мерапрыемствы, рыхтуе й прымае дакумэнты, ажыцьцяўляе захады дзеля рэалізацыі палажэньняў Праграмнае заявы й рашэньняў Зьезду БНФ, прыкладае намаганьні да аб'яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў на Беларусі;

—ад імя БНФ уносіць у Вярхоўны Савет БССР законапраекты, у іншыя дзяржаўныя ўстановы — прапановы;

— уносіць зьмены ў Статут й палажэньні Праграмнае заявы дзеля прывядзеньня іх у адпаведнасьць з заканадаўствам;

—удзельнічае ў выбарчых кампаніях, распрацоўвае выбарчую плятформу БНФ;

—фармуе тэрмінам на два гады Ўправу БНФ і вызначае рэглямэнт яе працы, зацьвярджае кіраўнікоў і склад сэкцыяў, рабочых камісіяў і групаў;

—арганізуе фінансава-гаспадарчую дзейнасьць БНФ, вызначае штаты тэхнічнага пэрсаналу БНФ, зацьвярджае асобаў, надзеленых правам падпісваць фінансавыя дакумэнты й дагаворы БНФ.

Управа — стала дзейны орган БНФ, зьбіраецца на паседжаньні не радзей аднаго разу на тыдзень, рашэньні прымае большасьцю галасоў, пры наяўнасьці на паседжаньні больш чым паловы яе сяброў.

Управа БНФ:

—кіруе дзейнасьцю БНФ у межах нададзеных паўнамоцтваў, забясьпечвае практычнае выкананьне рашэньняў Зьезду й Сойму БНФ, каардынуе дзейнасьць суполак, Радаў, Аддзелаў, інш. органаў БНФ, ладзіць сувязь з грамадзкімі арганізацыямі й дзяржаўнымі органамі Рэспублікі;

—рыхтуе асноўныя дакумэнты БНФ для абмеркаваньня й прыняцьця Соймам і Зьездам БНФ, разглядае ініцыятывы й прапановы аб дзейнасьці БНФ;

—арганізоўвае мерапрыемствы, акцыі, талокі, сходы, мітынгі, курсы, унівэрсітэты, гурткі й г.д., а таксама вытворчую дзейнасьць;

—распараджаецца сродкамі БНФ у адпаведнасьці з рашэньнямі Сойму БНФ.

Сэкцыі й камісіі Сойму БНФ:

—абагульняюць і распрацоўваюць для паседжаньняў Сойму й Зьезду прапановы, праекты рашэньняў, дакумэнты БНФ;

—распрацоўваюць рабочыя праграмы й рэкамэндацыі;

—рыхтуюць праекты законаў і інш. нарматыўных актаў;

—ажыцьцяўляюць экспэртызу й рыхтуюць прапановы па важных грамадзкіх пытаньнях.

Рэвізійная камісія БНФ падсправаздачная толькі Зьезду. Яна кантралюе фінансавую дзейнасьць БНФ. Сябры Рэвізійнае камісіі бяруць удзел у паседжаньнях Сойму ды Ўправы БНФ з дарадчым голасам. Скарбнік БНФ і штатны пэрсанал прызначаюцца Ўправаю.

Управа БНФ знаходзіцца ў Менску.

### МАЁМАСЬЦЬ І ФІНАНСЫ

БНФ, яго тэрытарыяльныя Рады, суполкі, Аддзелы валодаюць правам юрыдычнае асобы.

БНФ мае сваю маёмасьць і фінансавыя сродкі, якія захоўваюцца на бягучых банкаўскіх рахунках, у тым ліку ў замежнай валюце.

Грашовыя сродкі БНФ складаюцца:

—з дабраахвотных ахвяраваньняў і пералічэньняў ад удзельнікаў БНФ, арганізацыяў, прадпрыемстваў, установаў, каапэратываў, прыватных асобаў у Беларусі, у тым ліку ахвяраваньняў на канкрэтныя мэты;

—з грашовых складак сябраў БНФ;

—з пастутленьняў ад выдавецкае й гаспадарчае дзейнасьці;

—з даходаў ад масавых мерапрыемстваў, арганізаваных БНФ;

— са сродкаў, зробленых на выставах, талоках, спэктаклях і пад., арганізаваных БНФ;

—са сродкаў, атрыманых па тэстамэнтах.

Сродкі БНФ выдаткоўваюцца:

—на выданьне й распаўсюджваньне літаратуры БНФ;

—на арэнду памяшканьняў, набыцьцё неабходнае маёмасьці;

—на камандзіровачныя выдаткі;

—на ўтрыманьне штатнага пэрсаналу;

—на арганізацыю мітынгаў і дэманстрацыяў, інш. масавых мерапрыемстваў;

—на арганізацыю лекторыяў і ўнівэрсітэтаў;

—на правядзеньне сацыялягічных дасьледваньняў;

—на дабрачынную дзейнасьць;

—на вядзеньне выбарчых кампаніяў.

### СЫМБОЛІ, АТРЫБУТЫКА, ПЯЧАТКА

БНФ мае сваю эмблему, якая зацьвярджаецца Зьездам.

БНФ выкарыстоўвае беларускаю нацыянальную гістарычную сымболіку бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня». Пры гэтым Рады й Аддзелы Фронту могуць ужываць рэгіянальныя гістарычныя сымболі (гербы гарадоў і пад.) ды іншыя народныя сымболі ў спалучэньні з эмблемаю БНФ. Сойм, Управа БНФ і тэрытарыяльныя Рады, Аддзелы маюць пячаткі са сваёй назваю й эмблемаю «Адраджэньня».

### СПЫНЕНЬНЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ БНФ

Рашэньне пра спыненьне дзейнасьці БНФ «Адраджэньне» прымае яго Зьезд, калі за гэтае рашэньне прагаласуе 9/10 дэлегатаў.

# БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

# СВАБОДА - НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ - АДРАДЖЭНЬНЕ




## ДАКУМЭНТЫ

**Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» паўстаў як шырокі рух прыхільнікаў радыкальных зьменаў на карысьць дэмакратыі, дзяржаўнага сувэрэнітэту й нацыянальнага адраджэньня Беларусі. Ён стаў рэальнай палітычнай сілаю, што працістаіць таталітарнай сістэме. Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце БССР, дэмакратычныя фракцыі ў Саветах ўсіх узроўняў вядуць змаганьне за інтарэсы народу, за будучыню Беларусі.**

**Фронт прабіў мур маўчаньня вакол Чарнобылю, змусіў улады прымаць захады дзеля выратаваньня людзей ад ядзернае бяды, сам узяў удзел у гэтай справе. Палітычная дзейнасьць Фронту «Адраджэньне» прывяла да зьдзяйсьненьня многіх пунктаў яго праграмы, прынятае на Ўстаноўчым зьезьдзе. Найважнейшае дасягненьне – прыняцьцё Вярхоўным Саветам БССР Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі.**

**Галоўны плён дагэтульшняй дзейнасьці Фронту – згуртаваньне людзей дэмакратычнае, незалежніцкае, нацыянальна-адраджэнцкае сьвядомасьці, разбурэньне стэрэатыпнага ўяўленьня пра беларускі народ як здольны толькі да пасіўнага адпору камуністычна-імпэрскім сілам, гэта засьведчаная перад сьветам воля нашага народу да свабоднага й цывілізаванага жыцьця, да вяртаньня ў сям'ю эўрапейскіх народаў.**

**Чарговы этап дзейнасьці БНФ «Адраджэньне» розьніцца ад папярэдняга. Палітычна пасталела грамадзтва, зьмянілася сітуацыя вакол Беларусі. Канчаткова дыскрэдытавала сябе КПСС і яе арганізацыя на Беларусі, арганічна ня здольная пайсьці або хаця-б згадзіцца на карэнныя пераўтварэньні ў грамадзтве, эканоміцы, пагадзіцца зь непазьбежнасьцю распаду савецкае імпэрыі. Правалілася палітыка перабудовы, бо не пайшла далей спробаў касмэтычнага рамонту аджылае сістэмы. Кампартыя стала галоўнай рэакцыйнай сілаю ў грамадзтве. Пры яе панаваньні паглыбляецца эканамічны крызіс, пераходзячы ў катастрофу. Церпіць крах сістэма Саветаў, ад свайго зараджэньня несумяшчальная з прынцыпам падзелу заканадаўчае, выканаўчае ды судовае ўлады; намаганьні дэмакратаў у Саветах зьмяніць становішча да лепшага марнуе камуністычная большасьць; ў выніку наступае параліч улады.**

**Апірышча ўлады КПБ – унітарны Савецкі Саюз. Зь яе дапамогаю імпэрскі цэнтар не дапушчае рэалізацыі Дэклярацыі аб сувэрэнітэце Рэспублікі, па-ранейшаму эксплюатуючы народ Беларусі. Наша краіна не дачакалася ад Крамля кампэнсацыі за Чарнобыль, а камуністычнае кіраўніцтва Рэспублікі ня мае ні жаданьня ні ўмоваў, каб дзейсна ратаваць людзей Беларусі ад атамнае бяды, адстаяць сувэрэнітэт беларускае дзяржавы. У Рэспубліцы нарастае палітычны крызіс.**

**За некалькі гадоў адноснае дэмакратызацыі на Беларусі толькі пачалося фармаваньне грамадзянскае супольнасьці адраджэньне нацыянальнае сьвядомасьці. Недастаткова згуртаванае, нацыянальна індэфэрэнтнае ў сваёй большасьці грамадзтва застаецца падатным на палітычную апатыю: камуністычная партыя можа выкарыстаць гэтую асаблівасьць Беларусі ў крызісных умовах для гвалтоўнага вяртаньня ў таталітарную эпоху. Бліжэйшая задача БНФ «Адраджэньне» – не дапусьціць падобнага разьвіцьця падзеяў.**

**Паўстала неабходнасьць карэкцыі Праграмы БНФ «Адраджэньне»: удакладненьня мэтаў, задачаў руху, шляхоў іхняга дасягненьня. Большасьць палажэньняў Праграмы, асабліва канкрэтнага характару, захоўваюць моц.**

**Зважаючы на зьмену грамадзка-палітычных і нацыянальна-культурных варункаў на Беларусі, пацьвярджаючы пераемнасьць з Праграмаю БНФ «Адраджэньне» й разьвіваючы яе палажэньні, II Зьезд Фронту прыняў Праграмную заяву.**

Настаў вырашальны час у гісторыі нашае Бацькаўшчыны. Ці быць дэмакратычнай незалежнай дзяржаве Беларусі, ці быць беларускаму народу – вырашаецца зараз.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» – гэта шырокі грамадзка-палітычны рух грамадзянаў, партыяў, арганізацыяў, якія выступаюць за свабоду й дэмакратычныя ідэалы, за дзяржаўную незалежнасьць і нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі. Фронт гуртуе людзей незалежна ад іхняга сацыяльнага стану, прафэсійнае, нацыянальнае, партыйнае, рэлігійнае прыналежнасьці. Удзел у Фронце несумяшчальны з прапагандаю таталітарнае ідэялёгіі, клясавае, нацыянальнае, расавае, рэлігійнае нецярпімасьці.

БНФ «Адраджэньне» дзейнічае ў межах Канстытуцыі БССР. Фронт абірае дэмакратычныя, негвалтоўныя, гуманныя мэтады палітычнае дзейнасьці: удзел прадстаўнікоў БНФ у выбарах органаў улады й самакіраваньня, масавыя палітычныя акцыі, распрацоўка праграмаў, канцэпцыяў, законапраектаў, агітацыя й прапаганда.

Істотны кірунак працы БНФ – культурна-асьветная справа. Фронт займаецца дабрачыннай і гаспадарчай дзейнасьцю.

Панаваньне камуністычнае ўлады прывяло Беларусь да эканамічнага, палітычнага й культурнага крызісу, да экалягічнае безвыходнасьці. Адраджэньне дэмакратычнага грамадзтва, стварэньне здаровае эканомікі, вяртаньне да спрадвечных нацыянальна-культурных і маральных каштоўнасьцяў магчымае толькі пры скасаваньні таталітарнае сістэмы, дэмакратызацыі дзяржаўнага ды грамадзкага жыцьця Рэспублікі, нацыянальнай кансалідацыі. У сваю чаргу толькі ў незалежнай дзяржаве магчымае існаваньне грамадзтва, асноваа якога – вольная асоба й агульначалавечыя каштоўнасьці.

Раўназначныя й узаемазьвязаныя задачы БНФ «Адраджэньне» – дэмакратызацыя грамадзкага жыцьця на Беларусі й адраджэньне грамадзянскае супольнасьці, нацыянальна-культурнае адраджэньне народу.

## ГАЛОЎНАЯ МЭТА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ» – ВОЛЬНЫ ЧАЛАВЕК У АДРОДЖАНАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ...

Большае каштоўнасьці за чалавека на Зямлі няма, мера ўсіх рэчаў – свабода асобы. Дзесяцігодзьдзі таталітарызму не абверглі гэтае вечнае праўды. Наш палітычны ідэал – свабоднае грамадзтва й праўная дзяржава, угрунтаваны на сьведамай згодзе грамадзянаў дэмакратычны лад, які гарантуе правы меньшасьці,

БНФ імкнецца да стварэньня грамадзтва, дзе прызнаецца абсалютны характар унівэрсальных правоў чалавека, дзе прыватнае жыцьцё асобы – недатыкальнае. Прынцып самаарганізацыі такога грамадства – не чалавек дзеля дзяржавы, але дзяржава дзеля чалавека. Крыніцаю ўлады ў дзяржаве павінен быць народ; ніякі грамадзянін або палітычная арганізацыя ня маюць пераважнага права на ўладу. Палітычны плюралізм – неабходная ўмова дэмакратыі.

Вольна абраная палітычная ўлада адказная перад народам, самаабмежаваная й падзаконная. Ад злоўжываньня ўладаю грамадзтва ахаванае падзелам яе на тры незалежныя галіны: заканадаўчую, выканаўчую й судовую.

Беларуская пэрспэктыва – у разьняволеньні таленту й працы народу, калі кожная асоба упэўненая, што плён яе працы належыць ёй, калі праца й талент кожнага чалавека паважаецца грамадзтвам. Гэтую упэўненнасьць, як сьведчыць тысячагадовы гістарычны досьвед чалавецтва, дае прыватная ўласнасьць на зямлю ды іншыя сродкі вытворчасьці, трывалая сістэма грамадзянскае супольнасьці, моцная здаровая сям'я, паўнавартаснае духоўнае жыцьцё.

Эканамічнай базаю палітычнае дэмакратыі ёсьць эканамічная свабода – права кожнага чалавека валодаць уласнасьцю й распараджацца ёю. У праўнай дзяржаве кожнаму грамадзяніну гарантуецца сьвятое права недатыкальнасьці ўласнасьці. Бяз гэтага палітычны плюралізм, дэмакратыя, эканамічны прагрэс немагчымыя, бо інакш ўсе робіцца нявольнікамі адзінага ўсемагутнага ўласьніка – дзяржавы або пануючае партыі, якая ў адначасьсе можа адабраць у чалавека ўсё.

Грамадзяне, карыстаючыся сваімі правамі, ствараюць прадпрыемствы й арганізацыі, кансалідуюцца ў грамадзянскую супольнасьць. Яна падпарадкоўвае дзяржаву, пераўтварае яе ў апарат, які служыць грамадзтву й кожнаму грамадзяніну.

Свабода асобы й дэмакратычнае грамадзтва рэалізуюцца толькі ў НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВЕ. Самастойная дзяржава – гэта сьведчаньне высокае культуры народу, яго неад'емнае права, умова яго вольнага ўсебаковага разьвіцця, гэта трывалая гарантыя палітычных і эканамічных правоў грамадзянаў, гэта забясьпечаная гістарычная будучыня народу. Народ павінен сам распараджацца сваім лёсам, выбіраць форму дзяржаўнага кіраваньня й уладу. Народ, ня здольны да незалежнага дзяржаўнага існаваньня, рана ці позна дэградуе, раствараецца, зьнікае.

Беларускі народ заваяваў і выпакутваў права на дзяржаўную незалежнасьць усім сваім гістарычным шляхам. Дзяржаўнасьць Беларусі ўвасаблялася ў Полацкім княстве, у Вялікім княстве Літоўскім зь яго традыцыямі праўнае дзяржавы й цярпімасьці. Воля Беларусі да незалежнасьці выявілася ў паўстаньнях супроць Расейскае імпэрыі XIX ст., у рэвалюцыйных выступах 1905 і 1917 гг. Праваамоцным выразам імкненьня да незалежнае дзяржаўнасьці стала абвешчаньне 25 сакавіка 1918 г. Радаю Ўсебеларускага Зьезду Беларускае Народнае Рэспублікі.

Існаваньне БНР было спынена збройнай сілаю. Аднак бальшавікі вымушаны былі дазволіць стварэньне ў 1919 г. БССР, якая, незалежна ад іхняга жаданьня, аказалася пераемніцаю дзяржаўнае традыцыі Беларусі. Падпісаньне Саюзнага дагавору 1922 г., як і іншыя заканадаўчыя акты БССР, што адмаўляюць альбо ігнаруюць сувэрэнітэт Беларусі, ня мае юрыдычнае сілы, бо прынята ва ўмовах таталітарнага рэжыму, які кіруецца з-за межаў рэспублікі, і савецкай акупацыі. Беларусь мае гістарычныя, юрыдычныя й маральныя падставы аднавіцца як незалежная дзяржава – Рэспубліка Беларусь.

Будучая незалежная Беларусь – гэта дзяржава, якая праз стагодзьдзі каляніяльнага заняпаду вернецца ў сямью эўрапейскіх народаў, як роўная сярод роўных, і адновіць свае маральныя, культурныя, сацыяльныя каштоўнасьці. Валодаць, карыстацца, распараджацца нацыянальным багацьцем Рэспублікі Беларусь мае неабмежаванае права толькі беларускі народ. Канстытуцыя, заканадаўства ды органы ўлады незалежнае Беларусі будуць мець вяршэнства на ўсёй яе тэрыторыі. На Беларусі ня будзе узброенных сілаў іншых краінаў. Незалежная Беларусь стане бязьядзернай дзяржаваю.

Утварэньне незалежнае Беларусі побач з вольнымі суседнімі дзяржавамі павінна спрыяць міру й спакою ў Балтыйска-Чарнаморскім рэгіёне. Дэмілітарызацыя ці значнае скарачэньне ўзбраеньняў на гэтым абшары дазволіць нашай Рэспубліцы абыходзіцца невялікімі прафэсійнымі сіламі самаабароны.

Незалежная Беларусь ратыфікуе ўсе міжнародныя пагадненьні, скіраваныя на ўсталяваньне мірных і дабрасуседзкіх дачыненьняў паміж народамі, на абарону правоў чалавека. Беларуская дзяржава будзе заключаць палітычныя, эканамічныя ды іншыя пагадненьні, зыходзячы зь інтарэсаў народу Беларусі.

Незалежная дэмакратычная Беларусь зможа стварыць сістэму дзейснае сацыяльнае абароны для тых, хто з аб'ектыўных прычынаў ня ў стане пракарміць сям'ю. Беларуская Рэспубліка выкарыстае інтэлектуальныя багацьці свайго народу, каб стварыць сучасную эфэктыўную сістэму адукацыі, мэдыцыны, непасрэдна далучыцца да сусьветнага навукова-тэхнічнага поступу.

Незалежная Дэмакратычная Беларусь будзе дбаць пра сям'ю як пра апірышча грамадзтва й нацыі, пра захаваньне маральна-этычных традыцыяў народу, пра фізічнае здароўе сваіх грамадзянаў.

Незалежная дэмакратычная Беларусь будзе гарантам разьвіцьця й росквіту беларускае мовы й культуры, якія могуць паўнацэнна існаваць дзеля агульначалавечага дабра толькі на сваёй этнічнай тэрыторыі. Незалежная Беларуская дзяржава будзе руліцца пра беларусаў за яе межамі, дапамагаючы ім захаваць нацыянальную самасьвядомасьць, адметную культуру й годны дабрабыт. Дэмакратычная праўная ўлада Рэспублікі забясьпечыць культурна-нацыянальныя правы й умовы іх рэалізацыі ўсім нацыянальным супольнасьцям на Беларусі.

Адраджэньне незалежнасьці, дэмакратыі, яе падставы – прыватнае ўласнасьці, вяртаньне мовы, традыцыяў і веры продкаў, нацыянальная кансалідацыя – галоўныя ўмовы фізічнага й духоўнага выздараўленьня народу. Вольны народ, сам распараджаючыся плёнам свае працы, маючы міжнародную падтрымку, сам знойдзе паратунак ад наступстваў Чарнобылю, наладзіць гаспадарку, адродзіць культуру – сам выратуе сябе.

## ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ

БНФ «Адраджэньне» ўважае, што беларускі шлях да незалежнасьці ідзе праз выкананьне Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР, праз прыняцьце адпаведных законаў.

БНФ «Адраджэньне» выступае за прамыя пагадненьні Беларусі зь іншымі дзяржавамі, супраць удзелу нашае Рэспублікі ў Саюзным дагаворы, які захоўвае фэдэратыўную, а фактычна ўнітарную дзяржаву.

БНФ лічыць немагчымым ажыцьцяўленьне эканамічных рэформаў на Беларусі да прыняцьця Закону пра грамадзянства й за наданьне грамадзянства Рэспублікі на момант прыняцьця закону ўсім, хто жыве й мае на яе тэрыторыі законныя крыніцы існаваньня (акрамя

Навіны
Типография. г. Орша, ул. Минская, 3. Сп. печати офсетный. Объем 2,5 п.л. Тираж 10. 000. Зак. 2837.

вайскоўцаў тэрміновае службы), а надалей улічваць цэнз аселасьці й веданьне дзяржаўнае мовы.

Беларусь павінна праводзіць самастойную зьнешнюю палітыку, выкарыстоўваць свой статус краіны-заснавальніка ААН дзеля ўмацаваньня незалежнасьці, выхаду з гаспадарчага крызісу, дзеля арганізацыі й каардынацыйнае дапамогі Рэспубліцы – ахвяры Чарнобыльскае катастрофы.

БНФ «Адраджэньне» выступае за забарону ў Рэспубліцы дзейнасьці палітычных сілаў, кіраваных з-за яе межаў.

Беларускі Народны Фронт дамагаецца падпарадкаваньня праваахоўных органаў на тэрыторыі Рэспублікі яе ўладам, выступае за роспуск службаў КДБ СССР на тэрыторыі Беларусі й за стварэньне рэспубліканскае службы грамадзкае бясьпекі.

БНФ «Адраджэньне» прапануе паэтапную вайсковую рэформу:
увядзеньне права грамадзянаў Рэспублікі праходзіць вайсковую службу на яе тэрыторыі; стварэньне рэспубліканскае гвардыі, падпарадкованай Вярхоўнаму Савету Рэспублікі, а таксама падразьдзяленьняў альтэрнатыўнае службы дзеля выкананьня праграмы перасяленьня з заражанных зонаў; неразьмяшчэньне на Беларусі новых вайсковых адзінак Савецкае арміі, заключэньне пагадньняў на побыт наяўных вайсковых адзінак ды іх паступовы вывад з тэрыторыі Рэспублікі(пры забесьпячэньні сацыяльных гарантыяў афіцэрам); поўны вывад у акрэсьленны пэрыяд зь Беларусі ядзернае зброі; кампэнсацыю Рэспубліцы й мяйсцовым органам улады за прычыненую экалягічную шкоду.

БНФ «Адраджэньне» лічыць, што ў пэрыяд пераходу да незалежнасьці:

–дзейнічаюць толькі тыя нормы цяперашняй Канстытуцыі БССР і заканадаўчыя акты, якія не супярэчаць Дэкляраціі пра сувэрэнітэт Беларусі й міжнародным пагадненьням аб правох чалавека;

–наівышэйшую дзяржаўную ўладу ў Рэспубліцы ажыцьцяўляе яе Вярхоўны Савет;

–рыхтуюцца ўмовы для правядзеньня выбараў ва Ўсебеларускі Ўстаноўчы Сойм, які вызначыць надалей форму дзяржаўнае ўлады й дзяржаўнага кіраваньня Беларусі.

У эканоміцы, палітыцы й культурным жыцьці Беларусі неабходна дэмантаваць таталітарныя структуры. Павінны адбыцца наступныя працэсы.

## ДЭКАМУНІЗАЦЫЯ.

Дыктатура КПСС-КПБ – галоўная перашкода на шляху да свабоды. Камуністычная партыя стварыла сістэму манапольнае ўлады, паглынула ўсе дзяржаўныя інстытуты, разбурыла грамадзянскую й падарвала нацыянальную супольнасьць.

Дэкамунізацыя мае на ўвазе дэпалітызацыю й дэпартызацыю дзяржаўных, гаспадарчых, навуковых, культурных, асьветных установаў; дэідэялягізацыю й дэпартызацыю навукі, культуры, народнае адукацыі; нацыяналізацыю маёмасьці КПСС-КПБ як незаконна набытае.

Дэкамунізацыя не азначае прымусовага роспуску КПБ-КПСС або перасьледу за былое ці цяперашняе членства ў гэтай арганізацыі. Павінна быць скасавана манаполія КПСС на ўладу, забясьпечаныя роўныя ўмовы для ўсіх палітычных сілаў.

## КАНСТЫТУЦЫЙНЫ ПРАЦЭС.

Прынцыпы праўнае дзяржавы на Беларусі замененыя сістэмаю ценявое ўлады КПБ-КПСС. Таму неабходна прыняць новую Канстытуцыю Беларусі, распрацаваную на падставе Дэкляраціі аб сувэрэнітэце й міжнародных дакумэнтаў аб правох чалавека, і прывесьці заканадаўства ў адпаведнасьць зь ейнымі прынцыпамі.

## РЭФОРМА СІСТЭМЫ ЎЛАДЫ.

Адна з прычынаў цяперашняга крызісу ўлады – у нядзейснай савецкай форме кіраваньня. Яе неабходна замяніць прафэсійным парлямэнтам – Соймам – і сістэмаю муніцыпальных самаўрадаў на мяйсцох, пры гэтым пасьлядоўна ажыцьцяўляць прынцып падзелу ўлады на заканадаўчую, выканаўчую й судовую.

## УТВАРЭНЬНЕ ГРАМАДЗЯНСКАЕ СУПОЛЬНАСЬЦІ.

Разьвіцьцё шматстайных формаў грамадзкага жыцьця, эканамічныя, палітычныя, рэлігійныя, прафэсійныя ды іншыя аб'яднаньні грамадзянаў -неабходныя дзеля рэальнае самадзейнасьці грамадзтва, ураўнаважаньня інтарэсаў розных яго пластоў, ажыцьцяўленьня новых палітычных задачаў. БНФ «Адраджэньне» будзе спрыяць станаўленьню новых недзяржаўных грамадзянскіх інстытутаў, незалежных ад камуністычнае сістэмы ўлады, будзе дамагацца прыняцьця адпаведных заканадаўчых актаў.

Палітычная сітуацыя на Беларусі вымагае згуртаванасьці антытаталітарных сілаў у барацьбе з камуністычным самаўладзтвам, у стварэньні дэмакратычных грамадзкіх структураў, у выкарыстаньні формаў непасрэднае дэмакратыі. БНФ адкрыты для супрацоўніцтва зь сіламі, якія вызнаюць падставовыя каштоўнасьці дэмакратыі, незалежнасьці Беларусі, нацыянальна-культурнага адраджэньня.

БНФ «Адраджэньне» выступае за каардынацыю дэмакратычных і незалежніцкіх сілаў Беларусі ў падрыхтоўцы й правядзеньні выбараў ва Ўстаноўчы Сойм. Выбары ў новы найвышэйшы орган улады Беларусі павінны адбыцца на шматпартыйнай аснове паводле дэмакратычнага выбарчага закону.

## ПЕРАХОД ДА РЫНКАВЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ.

Палітычная ды іншая свабода немагчымая без эканамічнае свабоды чалавека й дзяржавы.

Таталітарная ўлада ня можа перайсьці да рынкавых дачыненьняў, бо мае антырынкавую сутнасьць. Дзяржаўна-манапалістычная эканоміка няздольная забясьпечыць дабрабыт народу, напоўніць рынак таварамі, забясьпечыць прыярытэтнае разьвіцьцё пэрспэктыўных галінаў вытворчасьці ды навукі. Гэта – эканоміка дэфіцыту, выгодная толькі партыйна-дзяржаўнай намэнклятуры, якая, дзякуючы кантролю за разьмеркаваньнем, захоўвае манаполію на ўладу й свой дабрабыт. Большая частка прыбытку траціцца на забесьпячэньне трываласьці гэтае ўлады: на вайскова-прамысловы комплекс, армію, дзяржбясьпеку.

Гэтая эканамічная сістэма вычарпала сябе, яна перажывае глыбокі крызіс, які пераходзіць у катастрофу. Адзіны паратунак – перавод эканомікі на рынкавыя прынцыпы, забеьпячэньне прыярытэту прыватнае ўласнасьці.

Доля дзяржаўнае ўласнасьці павінна быць дастатковай для рэгуляваньня эканамічных працэсаў.

Непазьбежнасьць прыватызацыі разумее й намэнклятурная каста, якая запалохвае народ рынкам і ў той жа час, выкарыстоўваючы сваё прывіліяванае становішча, манапольна прыватызуе дзяржаўную й партыйную маёмасьць, каб зьмяніць партыйную ўладу над народам на фінансавую.

Такі варыянт прыватызацыі вядзе да паглыбленьня сацыяльнае несправядлівасьці, да нараджэньня новага манапалізму з усімі яго хібамі, пагражае сацыяльным выбухам. БНФ рашуча выступае супраць апаратнае партыйнае прыватызацыі.

БНФ «Адраджэньне» прапануе вырашыць пытаньні стабілізацыі фінансавае сістэмы, без чаго пераход да рынку немагчымы.

Дзяржаўна-манапалістычная машына на працягу ўсяе свае гісторыі жорстка эксплюатавала народы. У так званай «агульнанароднай уласнасьці» ёсьць доля працы кожнага ды ягоных продкаў. БНФ выступае за вяртаньне адпаведнае долі гэтае ўласнасьці кожнаму грамадзяніну Беларусі, за роўныя магчымасьці пры ўваходзе ў рынкавыя дачыненьні, за сацыяльную абарону пры пераходзе да рынку, за максімальна сьціслыя тэрміны такога пераходу.

Найбольш справядлівы й дэмакратычны шлях прыватызацыі ў варунках Беларусі – гэта перадача кожнаму грамадзяніну Рэспублікі права на ягоную долю прыватызаванае дзяржаўнае ўласнасьці ў выглядзе каштоўных папераў. Укладаньне сродкаў у розныя сфэры вытворчасьці прыватнымі асобамі створыць рынкавы мэханізм структурнае перабудовы эканомікі, пераарыентуе яе на спажыўца.

БНФ «Адраджэньне» выступае за перавод у прыватны сэктар, як найбольш дынамічны й прыстасаваны да патрэбаў грамадзтва, большае часткі асноўных фондаў вытворчасьці. Аб'ектамі прыватызацыі найперш павінны стаць прадпрыемствы цяперашняга рэспубліканскага й саюзнага падпарадкаваньня, зямля, дзяржаўны жыльлёвы фонд. Павінны быць створаныя органы ацэнкі кошту прыватызаванае маёмасьці, фондавая біржа. Частка маёмасьці мусіць застацца ў дзяржаўнай уласнасьці для выкарыстаньня ўрадам Рэспублікі ў стратэгічных агульнанародных мэтах. БНФ дамагаецца прыняцьця Закону аб прыватызацыі.

Беларусь павінна прайсьці праз пераходны пэрыяд, каб падрыхтаваць эканамічныя, культурныя й палітычныя перадумовы незалежнасьці.

## СТВАРЭНЬНЕ САМАСТОЙНАЕ ЭКАНАМІЧНАЕ СІСТЭМЫ.

Апірышча дзяржаўна-манапалістычнае эканомікі – савецкая імпэрыя, якая праводзіць разбуральную эмісійна-канфіскацыйную фінансавую палітыку. Расьце інфляцыя, падае курс рубля.

Беларусь ня можа быць зацікаўленая ў аздараўленьні свае эканомікі, дакуль яе абслугоўвае адзіны інфляцыйны рубель, наплыў якога з-за межаў Рэспублікі зводзіць на нішто захады дзеля стабілізацыі рынку. БНФ «Адраджэньне» выступае за хутчэйшае ўвядзеньне ў абарачэньне беларускае грашовае адзінкі (талера), забясьпечанага набыткам Рэспублікі й эмітаванага Беларускім банкам, падлеглым толькі Вярхоўнаму Савету Рэспублікі.

БНФ уважае, што паколькі Беларусь брала ўдзел у стварэньні агульнасаюзнае ўласнасьці, яна мае права распарадзіцца былой саюзнай уласнасьцю на сваёй тэрыторыі, а таксама сваёй часткаю залатога й алмазнага запасу ды валютнага фонду СССР.

На думку БНФ, шлях да эканамічнага сувэрэнітэту мае на ўвазе падатковую рэформу, г.зн. пераход да падаткаў з усіх гаспадарчых суб'ектаў на карысьць выключна беларускае дзяржавы й самаўрадаў. Узровень падаткаў не павінен стрымліваць прадпрымальніцкую ініцыятыву.

БНФ «Адраджэньне» выступае за распрацоўку й прыняцьцё гаспадарчага кодэксу, які-б забясьпечыў умовы для шырокай прадпрымальніцкай дзейнасьці, гарантаваў устойлівасьць гэтых умоваў і забясьпечваў канкурэнцыю. БНФ – за індэксацыю выплатаў пэнсіянэрам, студэнтам, інвалідам, шматдзетным, тым, хто знаходзіцца на дзяржаўнай службе.

## САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА.

БНФ «Адраджэньне» лічыць, што галоўная падстава сацыяльнае справядлівасьці – роўныя магчымасьці для кожнага й непарушнае права ўласнасьці чалавека, у тым ліку на свае інтэлектуальныя й фізічныя здольнасьці.

БНФ выступае за скасаваньне сістэмы намэнклятуры й усіх прывілеяў. БНФ – за сацыяльныя гарантыі для найменш забясьпечаных на пэрыяд карэнных эканамічных рэформаў, за льготы для інвалідаў, пэнсіянэраў, шматдзетных. Фронт выступае за дзяржаўную палітыку абароны й падтрымкі сям'і.

БНФ лічыць неабходным стварэньне дзяржаўнае сістэмы перападрыхтоўкі для вызваленых у выніку пераўтварэньня гаспадаркі.

БНФ падтрымлівае пашырэньне страхавой мэдыцыны.

## ВЫЖЫВАНЬНЕ.

БНФ «Адраджэньне» сьцьвярджае, што Беларусі патрэбная не канцэпцыя пераадоленьня вынікаў Чарнобыльскае катастрофы – пераадолець іх немагчыма – але канцэпцыя выжываньня беларускага народу ў надзвычай неспрыяльных варунках.

БНФ патрабуе неадкладна распачаць высяленьне людзей з найбольш заражаных тэрыторыяў і лічыць злачыннымі спробы затрымаць іх. БНФ дамагаецца зарыентаваньня ўсіх рэсурсаў на праграму масавага перасяленьня, патрабуе спыніць вытворчасьць харчовых прадуктаў на заражаных тэрыторыях. «Адраджэньне» лічыць, што Беларусь мае права на кампэнсацыю стратаў ад Чарнобылю й павінна дамагацца яе міжнародна прызнаным чынам.

Дзеля зьберажэньня й рэгенэрацыі на Беларусі як мага больш здаровага навакольнага асяродзьдзя БНФ дамагаецца: прыняцьця адпаведнага пасьлячарнобыльскай эпосе прыродаахоўнага заканадаўства; незалежнае экалягічнае экспэртызы народнагаспадарчых праектаў, а таксама вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі Рэспублікі; увядзеньня абгрунтаванае платы за прыродныя рэсурсы; перапрафіляваньня або закрыцьця прадпрыемстваў, ня здольных забясьпечыць міжнародна прынятую ступень экалягічнае бясьпекі вытворчых працэсаў.

БНФ зыходзіць з таго, што пры станаўленьні грамадзянскае супольнасьці аб'яднаўчую ролю ў барацьбе супраць таталітарызму, за дэмакратыю й суэрэнітэт Беларусі мусіць выконваць супольнасьць нацыянальная. Толькі свабодны, культурны, скансалідаваны народ, а не паднявольнае, запалоханае, разьяднанае насельніцтва, здольны ствараць і разьвівацца. Перадумова кансалідацыі ды выжываньня беларускае нацыі – гэта адраджэньне яе культуры.

## АДРАДЖЭНЬНЕ КУЛЬТУРЫ Й НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СЬВЕДАМАСЬЦІ.

БНФ «Адраджэньне» зыходзіць з таго, што прагрэс чалавецтва магчымы толькі ў шматстайнасьці народаў; што пэрспэктыва Беларусі залежыць ад кансалідацыі Беларускага народу на падставе дэмакратычных і нацыянальна–культурных каштоўнасьцяў. Нацыянальнае адзінства – гарантыя выжываньня Беларусі ў надзвычайных эканамічных, палітычных, этнамоўных, экалягічных варунках.

Улічваючы, што Беларусь ёсьць спрадвечнай і адзінай Бацькаўшчынаю беларускага народу й толькі тут ён можа захаваць самабытнасьць, БНФ выступае:

– за дзяржаўную палітыку разьвіцьця й аховы беларускае культуры й мовы пры дапамозе адпаведных законаў ды эфэктыўны кантроль за іх выкананьнем, за прыярытэт беларускае мовы ў дзяржаўным і грамадзкім жыцьці;

– за адраджэньне й умацаваньне беларускае нацыянальнае сьведамасьці, гістарычнае памяці;

– супраць спробаў асіміляцыі беларускага этнасу: палітыкі «дзьвюхмоўя», скіраванай на недапушчэньне беларускае мовы ў ключавыя сфэры дзяржаўнага й грамадзкага жыцьця, палітыкі зьмяншэньня адноснае колькасьці карэннага этнасу на Беларусі;

–за дзяржаўную й грамадзкую падтрымку імкненьня захаваць нацыянальную тоеснасьць беларусаў за межамі Беларускае Рэспублікі, асабліва насельнікаў этнічна беларускіх земляў;

– за права кожнае этнічнае супольнасьці Беларусі на культурна-нацыянальную аўтаномію, на дзяржаўную дапамогу ў культурна-асьветнай дзейнасьці.

БНФ «Адраджэньне» сьцьвярджае, што Беларусь можа вярнуцца ў эўрапейскую й сусьветную супольнасьць народаў толькі праз адраджэньне шматвяковых культурных і навуковых традыцыяў.

БНФ выступае за свабоду творчасьці, культурнае й навуковае дзейнасьці на падставе агульначалавечых і нацыянальных маральных ды эстэтычных каштоўнасьцяў, за дзяржаўную падтрымку разьвіцьцю асьветы, навукі, культуры.

БНФ дамагаецца дэпалітызацыі й дэмілітарызацыі адукацыйнае сістэмы, лічыць мэтазгоднай шматстайнасьць формаў арганізацыі адукацыі (прыватныя навучальныя ўстановы), выступае за дзяржаўны кантроль за ўзроўнем базавае адукацыі й захаваньнем нацыянальных прыярытэтаў у адукацыйных установах. БНФ «Адраджэньне» лічыць жыцьцёва важным дзеля будучыні беларускага народу прыняцьцё канцэпцыі нацыянальнае адукацыі.

БНФ патрабуе дэмакратызацыі навуковага жыцьця Рэспублікі, яго вызваленьня з-пад апекі ваеннага ведамства; эканамічнага прадухіленьня эміграцыі інтэлекту з Рэспублікі. «Адраджэньне» лічыць інтэлектуальны патэнцыял Беларусі найважнейшай падставаю яе дабрабыту.

Адраджэньню грамадзянскае супольнасьці, маральнасьці, сям'і як падставовай каштоўнасьці будзе спрыяць адраджэньне веры – істотнага чыньніку паўнавартаснага духоўнага жыцьця чалавека.

БНФ выступае за свабоду веравызнаньня й рэлігійнае дзейнасьці ў Рэспубліцы, за роўнасьць канфэсіяў, за аддзяленьне атэістычнае прапаганды ад дзяржавы. БНФ рашуча пярэчыць спробам выкарыстоўваць вызнаньні дзеля расколу й разбурэньня беларускага этнасу. «Адраджэньне» – за грамадзка-нацыянальнае адзінства вернікаў і атэістаў Беларусі, за перавод набажэнства ў рэлігійных супольнасьцях, якія гуртуюць пераважна беларусаў, на беларускую мову.

★ ★ ★

**Незалежнасьць Беларусі, праўная беларуская дзяржава, беларускае нацыянальна-культурнае адраджэньне – прыступкі да адраджэньня найвялікшае каштоўнасьці – ЧАЛАВЕКА, асобы, яе духоўнасьці, годнасьці й таленту. Галоўнае багацьце нашае Бацькаўшчыны – яе народ. Жыве народ – ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ.**

**24 сакавіка 1991**
**г.Менск**

## УХВАЛА
## ў справе праграмнай заявы Беларускага Народнага Фронту

1. Прыняць Праграмную заяву Беларускага Народнага Фронту як кіраўніцтва да дзеяньня й асноўны напрамак дзейнасьці сяброў БНФ.

2. Пацьвердзіць, што палажэньні Праграмы Беларускага Народнага Фронту, прынятай на 1 зьезьдзе БНФ у Вільні, дзейнічаюць у той меры, у якой яны не супярэчаць гэтай праграмнай заяве.

24 сакавіка 1991
г.Менск

# КРОНІКА

## У польскім консульстве

**Менск.** У польскім консульстве зьвярнулі ўвагу на тое, што ў газэце «Свабода» №8, 1991 г. была перадрукаваная інфармацыя з часопісу «Wall Street Journal» пра тое, што «Салідарнасьць» прапанавала прыняць у парлямэнце закон аб дэкамунізацыі Польшчы. Гэта выклікала пэўнае зьдзіўленьне, бо хаця лідэры «Салідарнасьці» й цяперашняе дзяржаўнае кіраўніцтва рэспублікі й не вызнаюць камуністычных перакананьняў, але яны зьяўляюцца прыхільнікамі дэмакратычных каштоўнасьцяў, якія абавязваюць да павагі й талерантнасьці да любой палітычнай дактрыны. «Заклік да дэкамунізацыі, – сказалі ў консульстве, – сапраўды прагучаў, але ня з боку «Салідарнасьці», а на зьезьдзе палітычнага руху «Пагадненьне «Цэнтрум». Для паведамленьня гэтае навіны, лічаць у консульстве, ня варта было зьвяртацца да крыніцы з-за акіяну – з-за Бугу бліжэй і дакладней.

## Сход дэмакратычных рухаў

**Гомель.** (паводле Алены Кацапавай). 23 траўня па ініцыятыве Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі ў горадзе адбыўся сход дэмакратычных рухаў, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі гарадзкога страйкаму, АДПБ, Лігі жанчын, Саюзу абароны правоў чалавека, анарха-сіндыкалістаў і БНФ. Падчас нарады вызначыліся значныя разыходжаньні ў напрамках дзейнасьці й канцовых мэтах прадстаўнікоў розных палітычных партыяў і рухаў. Усімі была падтрыманая думка аб неабходнасьці дэкамунізацыі грамадзтва, але ідэі рэспубліканскага сувэрэнітэту й нацыянальнага адраджэньня былі падтрыманыя амаль выключна прадстаўнікамі БНФ. Большасьць аб'яднаных дэмакратаў і значная частка прысутных на сустрэчы дэпутатаў розных узроўняў выказалі няпэўнасьць у магчымасьці перамогі дэмакратычных сілаў на Беларусі, а таксама меркаваньні аб неабходнасьці арыентацыі на Расею.

## Да 100-годзьдзя М.Багдановіча

з 26 жніўня па 3 верасьня 1991 году турыстычная дырэкцыя Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» ладзіць круіз, прысьвечаны 100-м угодкам Максіма Багдановіча. Пад час падарожжа на цеплаходзе «Леанід Собінаў» турысты наведаюць мясьціны, зьвязаныя з жыцьцём паэты на Волзе, а таксама пабываюць на экскурсіях у Маскве, на радзіме вядомага расейскага паэты С. Ясеніна, наведаюць старажытныя расейскія гарады Разань, Касімаў, Мурам, Паўлава. Агульны працяг маршруту 1873 км. Запрашаем усіх, хто хоча ўзяць удзел у гэтым падарожжы. Кошт пуцёўкі – 565 рублёў. Сем'і, што набудуць пуцёўкі ў двухмесную каюту, маюць права ўзяць з сабою дзяцей да 12 год без прадастаўленьня асобнага мейсца за дадатковую аплату. Кошт дзіцячае пуцёўкі 140 рублёў.

Зьвяртайцеся, калі ласка, па адрасе: 220048 Менск, вул. Сухая, 4. Тэлефон: 236621, факс: 236726.

## «Наша Ніва» — адроджаная

**Вільня.** У горадзе пачалося выданьне газэты «Наша Ніва». Рэдактар адроджанага выданьня – С.Дубавец, вядомы плённай працай у незалежным беларускім друку.

## Іўеўскія «Паралелі»

**Іўе (Гарадзенская вобл.)** У горадзе будзе выдавацца прыватны часопіс «Паралелі». Заснавальнікі плянуюць выдаваць 6 нумароў часопіса ў год. Накіраванасьць выданьня – публіцыстычна-мастацкая, мова – беларуская. Адрас для падпіскі: 231330, Іўе, а/с 14. Гайдук Юры Іванавіч.

## Сойм БНФ

**Менск.** 8 чэрвеня адбылося паседжаньне Сойму БНФ, на якім былі вызначаныя асноўныя накірункі палітыкі Фронту. У тактыцы – гэта падрыхтоўка новых выбараў, стварэньне апазіцыі ўсяго грамадзтва супроць таталітарызму, арганізацыя паралельных структураў улады. У стратэгічным пляне – гэта адзінства з рабочым рухам, пашырэньне сацыяльна-палітычнае інфармацыі й культурна-нацыянальнага асьветніцтва, арыентацыя на беспартыйных і партыйную дэмакратыю, арганізацыйны рост БНФ, пашырэньне сацыяльнае базы Фронту праз сялянаў.

ВЁСКА

# ЗЯМЛЯ Й ВОЛЯ

(Працяг са ст.1)

Празьмерная самаўпэўненасьць камуністычных лідэраў і вера ва ўзурпаванае імі права на ісьціну ў апошняй інстанцыі прывялі да таго, што ў працэсе перабудовы яны даволі неразважліва адрэагавалі на захады дэмакратаў аб рэформе зямельнага права, маўляў, усё роўна далей за размовы справа ня пойдзе, непатрэбная савецкаму селяніну зямля, ён ужо чыста псіхалягічнаназаўсёды адлучаны ад яе, і нават, калі-б мы раптам і далі гэтую зямлю, ніхто-б ня стаў яе браць.

Рэальнасьць абвергла ўзьведзеныя ў ранг абсалюту ілюзіі кіраўніцтва. На Беларусі сялянства ўзьняло галаву раней за рабочых. Ужо паўтара года таму, калі пра рабочыя выступленьні ніхто й ня думаў, у Рэспубліцы раздаліся першыя галасы аб вяртаньні зямлі. Хутка сяляне зразумелі, што паасобку ім ніяк не прабіць таталітарную машыну, і пачалі гуртавацца вакол Беларускага Сялянскага Саюзу, потым многія зь іх сталі сябрамі Сялянскае партыі.

Тых, хто адкрыта заявіў пра непадуладную камунізму спрадвечную мару сялянства мець сваю зямлю, спачатку было няшмат. Большасьць, верная сялянскай абачлівасьці, прыглядалася, трымала гэтую думку глыбока ў сабе. Аднак імклівае разьвіцьцё падзеяў выслабаніла сялянскую энэргію, і са зьяўленьнем Закону пра фэрмэрскую гаспадарку ў сельсаветы градам пасыпаліся заявы на зямельныя надзелы.

Незважаючы на недасканаласьць Закону, які замацаваў дзяржаўную ўласнасьць на зямлю й даў права ўсяго толькі спадчыннага валоданьня ёю, сяляне ўбачылі выратаваньне. Тут распачаўся новы віток супрацьстаяньня КПБ–КПСС і ўласнага народу. «Зямлі не даваць!» – гэткая дырэктыва ва ўсіх мажлівых формах разьляцелася па сельсаветах і праўленьнях калгасаў. А як жа Закон?

Удзельнікі зьезду бязьзямельных сялянаў, які 25 траўня адбыўся ў Менску, былі аднадушныя – «дзеля калгаснага начальства ён нібыта не існуе». Інвэнтарызацыя калгасных і саўгасных земляў была зацягнутая й накіраваная не на выяўленьне, а на прыхываньне прыдатных для фэрмэраў надзелаў. Больш таго, пры вырашэньні пытаньня аб выдзяленьні зямлі сельсаветы ідуць на прамое парушэньне Закону, у якім сказана, што «з мэтаю стварэньня роўных умоваў гаспадараньня» фэрмэрам «прадастаўляюцца зямельныя надзелы, кадастравая ацэнка якіх, як правіла, павінна быць на ўзроўні сярэдняе кадастравае ацэнкі па гаспадарцы», і прапаноўваюць сялянам хворую, занядбаную, непрыдатную для земляробства зямлю, якая патрабуе сур'ёзных капіталаўкладаньняў. Але нават і за гэтыя аб'едкі з панскага стала агульнанароднае маёмасьці сялянам прыходзіцца змагацца.

Селянін Мікалай Богдан, які даведаўся пра зьезд з «Народнай газэты» й спэцыяльна прыехаў у Менск прасіць паратунку ад самаволі старшыні Кастровіцкага сельсавету (Слонімскі раён) пацьвердзіў гэтае назіраньне ўласнай гісторыяй, якую прасіў абавязкова надрукаваць у газэце.

Гаспадарка сям'і Богдан за выняткам пабудоваў складае 15 сотак. Яны трымаюць карову, бычка, пару кабанчыкаў, розную птушку, штогод здаюць у калгас каля тоны мяса, і цяпер хацелі-б пашырыць свой гарод яшчэ на 15 сотак. Гаворка, уласна кажучы, ідзе пра элемэнтарнае пашырэньне прысядзібнага надзелу, які цяпер можа займаць плошчу да 1 гектару. Аднак старшыня сельсавету катэгарычна адмовіў сп. Богдану, маўляў, ягоная жонка працуе прадаўшчыцай (дарэчы, у вясковай краме), а сам гаспадар – трактарыст у мэліярацыі, такім чынам, яны не зьяўляюцца калгасьнікамі й права на зямлю ня маюць. Атрымліваецца, каб уладкаваць справу, жонцы й мужу Богданам перад пэнсіяй трэба зволіцца з працы, якой прысьвяцілі ўсё жыцьцё.

Селянін Віктар Жынгілевіч з калгасу імя Гастэлы Менскага раёну на другі дзень пасьля апублікаваньня Закону распачаў захады дзеля атрыманьня 5 гектараў непрыдатнае й нескарыстанае калгасам зямлі дзеля гадоўлі птушкі й рыбы. Калі сп. Жынгілевіч зразумеў, што кіраўніцтва сельсавету, як той сабака на сене, будзе бараніць непатрэбны калгасу кар'ер, ён напісаў новую заяву, урэзаўшы свае патрэбы да 1 гектару. Аднак і другі раз яму не пашанцавала. Старшыня калгасу імя Гастэлы Яўген Ліўшыц вынес канчатковы прысуд – не даваць ніводнага гектару.

«Што-ж гэта за дзяржава, – пытаецца Віктар Жынгілевіч, – якая не разумее свае элемэнтарнае карысьці. Ці ўсё тлумачыцца тым, што КПСС зацікаўленая, каб зьнішчаць 9/10 ураджаю, а 1/10 прадаваць па высокіх цэнах?» Чалавеку, які ўсё жыцьцё правёў на зямлі, якому вядомая толькі адна мова, – мова прыроды й мэтазгоднасьці, сапраўды цяжка зразумець штучную савецкую абсурднасьць.

Чаму, калі ў краіне няма чаго есьці, калі з Захаду штодня цягнуцца канвоі з харчаваньнем, калі прэзідэнт Гарбачоў разьязджае па малых і вялікіх краінах з мэтаю выпрасіць крэдыты, мяйсцовыя ўлады робяць усё магчымае, каб загнаць народ у яшчэ большую галечу. Якая сьвядомасць можа спажыць гэта, пра якое маральнае здароўе можна гаварыць? Такіх гісторыяў, падобных да міфічнага змаганьня зь ветракамі, куды больш чым створаных фэрмаў. Яны вельмі падобныя й вельмі індывідуальныя, бо акрамя таго, што беларускі селянін усьвядоміў факт варожасьці дзяржавы, для кожнага зь іх змаганьне за зямлю – гэта глыбока асабісты шлях вызваленьня зь няволі, вяртаньня свае чалавечае годнасьці.

Безумоўна, стварэньне спадчыннай фэрмы – вялікі ў параўнаньні з калгасам крок наперад, але гэта толькі першая веха на шляху да свабоды, гарантыя якой – толькі прыватная ўласнасьць на зямлю.

Сяляне добра разумеюць хісткасьць свайго цяперашняга становішча: улада дае гэтую зямлю са скрыгатам, а забраць можа ў адзін момант. Тым часам для нармальнае працы селяніну патрэбныя гарантыі, што ягоныя намаганьні ня будуць змарнаваныя, зьнішчаныя ў выніку чарговае перамены курсу, што, зарабіўшы дастаткова грошай, ён здолее набыць яшчэ кавалак зямлі й пашырыць гаспадарку, што над ім ня будзе чыноўнікаў-наглядчыкаў, якія, спасылаючыся на права дзяржаўнае ўласнасьці на зямлю, будуць па-ранейшаму загадваць, што рабіць.

Падобныя гарантыі можа даць толькі права прыватнае ўласнасьці на зямлю. Але гэта – канец камуністычнаму прыгону, канец сістэме. Менавіта таму камуністычная большасьць у Вярхоўным Савеце чапляецца за прынцып дзяржаўнае ўласнасьці на зямлю як бедная дзеўчына за цноту.

Ірына ЛАЗОЎСКАЯ






Навіны
3'1991, 12 чэрвеня

Рэдактар Алесь Суша.

Нумар падрыхтавалі: Алена Вашчанка, Кастусь Вашчанка, Кастусь Войтка, Алена Галаўчак, Павел Данейка, Юры Дракахруст, Лілія Карабко, Аляксандар Лазоўскі, Ірына Лазоўская (нам. рэдактара), Уладзімір Панада, Юры Рагуля, Андрэй Рамашэўскі, Павел Тушынскі.

Заснавальнік Зянон Пазьняк. Ліцэнзія №67. Меркаваньне аўтараў публікаваных матар'ялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі й кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й не вяртае.

Адрас рэдакцыі: 220050, Менск, вул. К.Маркса, 25-79. Тел. 27-06-04.

Типография. г. Орша, ул. Минская, 3. Сп. печати офсетный. Объем 2,5 п. л. Тираж 10.000. Зак. 2837.